# Зьніч

**КРАЯЗНАЎЧЫ БЮЛЕТЭНЬ ГОРАДЗЕНСКАЙ МОЛАДЗІ**
**Выпуск чацьвёрты, кастрычнік 1999 г.**

І гарыць недзе ў глыбіні жыцьцядайнай зямлі беларускай сьвяты вагонь памяці - Зьніч, грэе сэрцы пераемнікаў цяплом, што праменіць гісторыя. Хто запаліў гэты сьветазарны вагонь дзеля спадкаемцаў народнага скарбу духоўнага - прыгожае паданьне не называе. Можа, добры бог Вялес, які ў сівую эпоху паляўніцтва быў, пэўна, духам забітага зьвера, духам здабычы, а для жывёлавода й земляроба стаў богам жывёлаў і ахоўнікам царства памерлых... Памятаеце, сонца на захадзе ўжо ня ймчаць дзённыя спрытныя коні на калясьніцы, яно заплывае ў падземны сьвет з гусямі-лебедзямі, якія ўмеюць і лятаць, і па вадзе плысьці. А там, пад зямлёй, і продкі нашыя пахаваны - гэта яны дапамагаюць зямлі нараджаць плады.

Вялес ахоўвае статак. Чаму б яму не спрыяць нябожчыкам, не запаліць Зьніч, каб не абрывалася нітка памяці?

Адкуль зьявілася павер'е пра нязгасны Зьніч - можна толькі здагадвацца. Але верыць у гэты абярагальны вагонь, як у сьвячэньне літасьцівай душы, нясьцерпна хочацца. Бо чаму ж мы завем зорку, што ляціць да долу з-пад аблокаў і згарае, зьнічкай? Мабыць, упаўшы зь небасхілу, яна не згасае ў нябыце, а толькі зьнікае туды, дзе роўна, ахвярна палае Зьніч, каб не заблукалі ў цемрадзі людзкога забыцьця душы.



У вечар дзядоўскі дарогі ўсе вядуць дадому, дзе не запальваюць агню, пакуль "старэйшына" не засьвеціць сьвечку, дзе дзьверы адчынены родным, сваім, ды і ўсім падарожным, беспрытульным, а лава ўрачыста чакае зьяўленьня Дзядоў легкакрылых. А як заціхне навакольле ў хвілю, вянчаную агнём вечаровым, сьвечку мігатлівую вядзе гаспадар тры разы вакол страваў - асьвячае, замаўляе агнём стол багаты на будучыню, на суладзьдзе з дайнай прыродай і Дзядамі праведнымі. У старадаўнім Заслаўі было прынята яшчэ сьвечку гэтую загарнуць у блін і, трымаючы ў другой руцэ бохан хлеба, абкружыць тры разы барановую, сьвіную ці пеўневую галаву на стале ды называць пры гэтым імёны Дзядоў, запрашаць да вячэры. Што гэта - глухія адгалоскі язычкага ахвярапрынашэньня, задобрываньня памерлых і Бога - ахоўніка царства падземнага Вялеса? А можа,

Зьніча - агонь сьвяты, пасланы продкамі з улоньня зямнога - выклікалі на Дзяды, прасілі ня гаснуць, не зьнікаць? Бо калі на Магілёўшчыне запальвае гаспадар грамнічную сьвечку, а побач у чарапок ад гаршчка складаюць гарачае сьвятлічнае вугольле з асьвячонымі ў Духаў дзень зёлкамі наверсе і абкурваюць хату - хіба не абярогу сьвятога просяць у Боства-Зьніча на Дзяды? Хіба не ад злых духаў засьцерагаюць сям'ю агнём ды травамі сьвячонымі.

**Паводле кнігі:**
**А. Хатэнка, "Зьніч крыжовых дарог". 1992**

**У Беларусі, на жаль, ня шмат месцаў, якія б вабілі турыстаў сваёй таямнічасьцю й старажытнасьцю. Пабываўшы ў якасьці студэнта-археоляга два тыдні на раскопах у Гальшанах, магу сьцьвярджаць, што гэта той куток нашае краіны, які мог бы выконваць гэтую ролю. Сваесаблівыя адносіны да гэтага шэраговага, на першы погляд, мястэчка тлумачыцца тым, што чалавек заўсёды імкнецца да мясьцінаў, дзе яшчэ захавалася хоць і слабая, сувязь**

# паміж мітам і рэчаіснасьцю

*Міты*

Увогуле, усьведамленьне жыхарамі Гальшанаў сваёй адметнасьці абапіраецца пераважна на легенды й паданьні, а не на сапраўдную гісторыю. Людзі, як правіла, маюць даволі слабое ўяўленьне аб сваіх папярэдніках на гэтай зямлі й аб статусе свайго мястэчка ў межах старажытных дзяржаваў. Затое паданьні зьяўляюцца неад'емнай часткай жыцьця Гальшанаў, яны абавязкова будуць распаведзены кожнаму новаму госьцю мястэчка.



***Францысканскі касьцёл. Пачатак XVII ст.***

Найбольш папулярнай у гэтых мясьцінах зьяўляецца легенда аб калодзежы, якая, дарэчы, можа часткова адпавядаць рэчаіснасьці. Згодна зь ёй, некалі на гарадзішчы, што ў некалькіх кілямэтрах ад мястэчка, стаяў храм (на самой справе замак). Аднойчы ў гэтым храме малілася дзяўчына. І ў той жа час яе недзе пракляла родная маці. Напэўна, ад сутыкненьня божых сілаў з д'ябалавымі храм у імгненьне вока праваліўся скрозь зямлю, яго паглынула гара. Жыхары сьцьвярджаюць, што захавалася фізычная сувязь паміж нашым жыцьцём і падземным храмам праз калодзеж. Кажуць, што калі кінуць манэту ў гэты калодзеж, то трэба доўга чакаць, пакуль яна адгукнецца на дне выразным звонам (менавіта звонам, а ня стукам ці ўсплескам). Адна жанчына ўпэўнівала нас, што асабіста была на тым месцы й чула звон. Аднак ні яна, ні іншыя жыхары мястэчка на маглі ўзгадаць месцазнаходжаньне калодзежа, дадаючы, што аб ім дасканала ведалі толькі старажылы, якія ўжо памерлі. Дарэчы, кіраўнікі нашае экспэдыцыі схільны былі верыць той частцы легенды, што зьвязана з калодзежам, і раілі нам быць асьцярожнымі на гарадзішчы.

Шэраг чутак і паданьняў быў зьвязаны і з новым замкам, вядомым як замак Сапегаў, апісаным у вядомым творы У.Караткевіча. Пераважваюць тыповыя гісторыі каханьня маганацкай дачкі й вясковага хлопца, якія, зразумела, маюць сумны канец. Зьяўленьне духу таямнічасьці вакол навага замку таксама невыпадковае. Ёсьць зьвесткі,што з мэтай пакараньня ў сьцены замка некалі замуроўваліся жывыя людзі. Гэта і стала адной з крыніцаў для зьяўленьня драматычных і жудасных мітаў аб прывідах. Між іншым, у апошнюю ноч свайго знаходжаньня ў Гальшанах мы правялі некалькі гадзінаў ля развалінаў замка і, на дзіва, ніякіх прывідаў і цёмных сілаў не заўважылі.

Некаторыя з чутак былі выкрытыя яшчэ прасьцей. Так, у мястэчку з даўніх дзёнаў існуе паданьне, што паміж гарадзішчам (глядзі вышэй) і тутэйшым касьцёлам існуе падземны ход. Аднак вядома, што жыцьцё на гарадзішчы кіпела недзе ў XII – XIII ст., а касьцёл быў пабудаваны толькі ў XVII ст., калі на гарадзішчы нават рэшткаў ранейшага жыцьця не засталося. Пытаньне, яно ж вынік: каму патрэбна калупацца пад зямлёй некалькі кілямэтраў, каб вылезьці невядома дзе й навошта?

*Міт ці рэчаіснасьць?*

Цікава, што Гальшаны настолькі зрасьліся зь легендарным асяродзьдзем, што самі адкрываюць ці ствараюць міты. Выразны прыклад – мясцовы музэй-галерэя. Ён прываблівае нашых студэнтаў ня столькі экспанатамі, колькі расповядамі супрацоўнікаў. Так, экскурсаводы любілі паказваць наведвальнікам “дзівосны” камень у адным з пакояў. Дзіва заключалася ў тым, што падчас фатаграфаваньня ў музэі, здымкі атрымліваліся ўва ўсіх пакоях, акрамя гэтага. Аднак праведзены асобнымі студэнтамі экспэрымэнт паказаў, што гэты пакой і гэты камень атрымліваюцца на фатакартцы ня чым ня горш за іншыя. У гэтым жа музэі, акрамя камня, ёсьць яшчэ адзін сэнсацыйны (ня ведаю ці браць у двухкосьсі) экспанат – чалавечыя косткі. Пэўныя акалічнасьці дазваляюць супрацоўнікам музэя меркаваць, што гэта рэшткі старажытнага роду Сапегаў. Што гэта за акалічнасьці, мы не даведаліся, але да чэ-



***Вежа замку Сапегаў. Пачатак XVII ст.***

рапаў зьявілася нейкая сымпатыя (здаровая). Дарэчы, гэты скарб хаваецца ў пакоі-кладоўцы ў звычайнай скрыні, таму ўсе маглі патрымаць легендарныя чэрапы ў руках, а неабцяжараныя забабонамі – нават сфатаграфавацца зь імі. Астанія рэчы музэя сваёй звычайнасьцю й сьціпласьцю вярталі нас у сумную

*Рэчаіснасьць*

Канешне, прыемна бачыць карціны даволі вядомых мастакоў, прысьвечаныя Гальшанам і выстаўленыя ў тым жа музэі. Аднак, засмучае тое, што ўсе яны былі створаны імі яшчэ ў студэнцкія гады падчас адпаведнай практыкі ў гэтых мясьцінах (чытай: створаныя пад прымусам). Здагадваюся, што ніхто з гэтых мастакоў не вярнуўся сюды сам, па клічу душы, каб пацьвердзіць сваю любоў да Гальшанаў. Прынамсі, такіх карцінаў я там не заўважыў.

Прыемна ведаць, што вядомы мастак Фэрдынанд Рушчыц нарадзіўся тут, недалёка ад Гальшанаў у вёсцы Багданаве, і бачыць, што яму ў музэі прысьвечаны асобны, даволі вялікі карыдор. Сумна, аднак, што аснову экспазыцыі складаюць рэпрадукцыі яго карцінаў, а не арыгіналы і што самае каштоўнае тут – гэта, напэўна, фатаздымкі ягонага ўжо старога ўнука, які ня так даўно наведаў малую радзіму свайго дзеда.



Аднак, ня ўсё так шэра ў паўсядзённым жыцьці мястэчка. Гальшаны па праву ганарацца сваім летапісцам – дырэктарам гальшанскае школы Э.С.Корзунам. Менавіта ён зьяўляецца дасьледчыкам і захавальнікам мінулага гэтых мясьцінаў. Менавіта ён нам распавёў большую частку з паданьняў, прыведзеных вышэй. Ён – аўтар шэрагу кнігаў па гісторыі Гальшанаў. Школьны музэй, створаны ягонымі рукамі, саступае Горадзенскаму ў Старым Замку толькі па памерах, але не па якасьці. Тое, што асноўная маса экспанатаў была прынесена ў школьны музэй гальшанцамі, не зьвязанымі наўпрост з гісторыяй, сьведчыць, што старажытныя Гальшаны й іх сёньняшнія жыхары – гэта яшчэ ня дзьве абсалютна розныя рэчы.



У тым, што на гальшанскіх палёх можна знайсьці шмат старажытных рэчаў, мы ўпэўніліся падчас раскопаў. Не спыняючыся на жалезных прыладах працы й медных упрыгожваньнях, узгадаю толькі пра тое, што ліпеньская група студэнтаў знайшла срэбранае кальцо XII ст. Магу вас упэўніць, што знаходка сёньня служыць навуковым мэтам толькі дзякуючы таму, што экспэрты зь ліку тых жа студэнтаў не пазналі ў патрэбны момант каштоўнага мэталю.

Мушу канстатаваць, што гістарычныя рэлііквіі й археалягічныя знаходкі карыстаюцца павагай мясцовага насельніцтва толькі да тога моманту, пакуль на першы плян ня выйдуць гаспадарчыя патрэбы. Ня будзем спыняцца на тым, як адна мясцовая цётка з крыкам выгнала двух нашых студэнтаў, якія выпадкова (я спадзяюся) пачалі раскоп на яе палявым надзеле. Ну няма ў бабы цягі да ведаў і ўсё! Хачу сказаць аб іншым. Сёньня ад замка Спегаў захаваліся толькі рэшткі сьценаў. І вінаватыя ў гэтым ня войны, не рэвалюцыі й ня час, а самыя жыхары Гальшанаў. Ужо нават ня верыцца, што замак быў амаль цэлым яшчэ пасьля Другой Сусьветнай. Але людзям трэба было адбудаваць жыльлё, неабходны быў дом культуры, іншыя ўстановы, а матэрыялу не было. Вось і пачалі разьбіраць палац па цэглачцы.

Ня так даўно я ўбачыў фатаздымак адноўленага ў Тракаі (Летува) замка. Правёў паралелі са станам беларускіх замкаў: узгадаў Мір, Нясьвіж, памянуў Гальшаны, якія б маглі стаць пэрляй, прыцягваючы турыстаў нават з-за мяжы. За той час, што мы былі на раскопах, да нас, на крутое й голае гарадзішча (!), дзе калісьці штосьці было, уздымаліся людзі, якія прыехалі ў Гальшаны з розных куткоў Беларусі, новы замак зьбіралася наведаць вялікая група скаўтаў з Ваўкавыска (калі не памыляюся).

Але большасьць пасажыраў не выходзяць з аўтобусаў на прыпынку ў Гальшанах. А на што тут глядзець? Усё як і ўсюды: трасянка, хаты са старой цэглы, задрыпаны дом культуры...

**Мікалай Ратабыльскі**

***Ад рэдакцыі***

*Расчараваны, відаць, сваёй практыкай аўтар гэтых радкоў неяк забыўся згадаць і пра прыемныя куткі слаўнага мястэчка. Мясцовы касьцёл, дзе колісь захоўваліся труны Сапегаў, яскравае таму сьведчаньне. А чаго варта ўжо толькі адныя вулачкі з цудам захаваўшыміся жыдоўскімі домікамі. Беларусы, сыны сваёй Бацькаўшчыны, ці ж ня маем мы права ганарыцца сваімі цудоўнымі мястэчкамі зь іхняе няхай нават і трасянкаю, але не з гарадзкой маскоўскай мовай?! Мы мусім бога славіць, што пасьля гэтулькіх войнаў ды закалгашваньняў у нас яшчэ нешта засталося. І наша мэта ёсьць захаваць гэтыя каштоўныя набыткі! Наша мэта ёсьць пакінуць гэта нашым нашчадкам!*

# Замкавая культура Беларусі

## *Праблема вызначэньня дэфініцыі "Замак"*

Ува ўсеагульнай навуцы пераважаюць архітэктурныя, археалягічныя й гісторыка-сацыялягічныя характарыстыкі. Л.Кайзер і Г.Семянчук выводзяць наступныя вызначэньні гэтых характарыстыкаў. У першым выпадку, з архітэктурнага боку "замак – гэта адна з формаў паселішча, якую характарызуюць наступныя архітэктурныя элемэнты; кожнае ўмацаваньне прадстаўляе сабой пэўную сыстэму абароны, якая мае патрэбнае значэньне ў дадзены гістарычны пэрыяд". Сыстэма – гэта склад элемэнтаў, укладзеных па пэўных прынцыпах. Асноўныя элемэнты абароны гэта сьцены, вежы-данжоны, брамы з броні (герса), пад'ёмныя масты, валы й ірвы. "А таксама памяшканьні для жыльля (так званыя "wieze-miaszkalne"), сакральнае памяшканьне (капліцы) і гаспадарчыя пабудовы (канюшні, бровары, пякарні й розныя сховішчы)". У другім выпадку (археалягічным) "замак – ёсьць адзін зь нерухомых аб'ектаў, які характарызуюць: сыстэма абароны, форма й памеры паверхні, спэцыфіка жылога й гаспадарчага будаўніцтва, магутнасьць культурнага плясту, заняткі жыхароў, а таксама прысутнасьць спэцыфічных рухомых прадметаў (рэшткі зброі, культавыя рэчы, ювэлірныя вырабы, конныя запражкі й г.д.)".



***Герса ў Мальбарку***

З гісторыка-сацыялягічнага пункту гледжаньня "замкі бываюць, папершае, агульнадзяржаўнымі, падругое, прыватнаўласьніцкімі. Замкі выконвалі наступныя ролі: адміністрацыйную, гаспадарчую, ваенную й культурную й былі іх цэнтрамі. Замкі, якія знаходзіліся непасрэдна ўздоўж мяжы дзяржавы, былі, перш за ўсё, памежнымі й выконвалі функцыю, так мовіць, "форпоста", яны маглі быць у роўнай ступені, як дзяржаўнымі, так і ўласнымі".

Важкасьць вызначэньня паняцьця "замак" выклікана з аднаго боку складанасьцю гэтай зьявы, з другога – шматграннасьцю. Больш таго, ніводная з адзначаных рысаў не адмаўляе адна другую, а нават узаемна дадае адна адну.

І так, што ж такое "замак"? Згаджаючыся зь Я.Багданоўскім (Maly slownik terminologiczny dawnej architektury obronnej w Polsce. Krakow, 1986) і дадаючы яго, прапаную наступнае вызначэньне дэфініцыі "замак". Замак – гэта тэрмін, які азначае самастойнае абарончае збудаваньне, што паўстала ў сталым сярэднявеччы (у Польшчы ў XIII ст., у ВКЛ у XIV ст.). Такое збудаваньне аб'ядноўвае дамінуючую абарончую функцыю з жыльлёвай і гаспадарчай. Замак прыстасаваны для абароны сыстэмай вежаў, бастыёнаў, сьценаў, брамаў, мастоў і абарончых ірвоў і валоў. Характэрнай рысай зьяўляецца максымальнае выкарыстаньне абарончых умоваў тэрыторыі, на якой пабудаваны замак. Вылучаюць віды замкаў па наступных адрозьненьнях:

- па функцыях:
1. рэзыдэнцыйныя
2. адміністрацыйныя
3. памежныя

-па ўладжаньню абароны:
1. верхнія
2. ніжнія
3. сярэднія (прамежкавыя)
4. абсталяваныя ці перадзамчышчамі ці падзамчышчамі
5. розныя

-па арганізацыйна-тэратарыяльным значэньні:
1. сядзіба ўладара (рыцара) - (прыватнаўласьніцкія)
2. месца дыслякацыі дзяржаўных войскаў (кастэлі) - (агульнадзяржаўныя)

У залежнасьці ад ролі ў тэрытарыяльнай арганізацыі замкі выступалі ці паасобку, ці як элемэнты сыстэмаў (стратэгічныя лініі абароны мяжы, гандлёвых шляхоў, перапра-

ваў і г.д.). напрыклад, як лінія абароны, Ліда - Крэва - Меднікі.

Зь цягам часу, захоўваючы традыцыйныя функцыі, замкі набывалі абарончыя элемэнты, якія адпавядалі разьвіцьцю сыстэмы абароны. Яскравым узорам гэтага, зьяўляецца вынясеньне вежаў за пэрымэтар сьценаў. Гэта давала магчымасьць весьці скрыжаваны абстрэл. Ці, напрыклад, пераламленьне сьцяны пад вуглом, так, званыя клешчы. У далейшым разьвіцьці замкаў, з XVII ст., рэзыдэнцыйная функцыя пачынае пераважаць над абарончай, у выніку чаго, замак пераўтвараецца ў палац.



*Град*

У сучаснай гістарыяграфіі йснуе няверная трактоўка храналягічных рамак узьнікненьня замкаў. Па-першае, панятак "замак" трэба, і гэта будзе правільна, зьвязваць з тэрмінам "замак", які, як было ўжо сказана вышэй, узьнік у пач. XIV ст. Да гэтага ж часу правамерней было б ужываць іншыя тэрміны (град, места і г.д.). і ўсё ж я не адмаўляю, што правобразы замкаў узьнікаюць ужо ў XII ст., ніяк не раней, але называць іх замкамі яшчэ нельга. Па-другое, пад замкамі трэба разумець, перш за ўсё канешне, пабудову з каменьня або цэглы. Але ёсьць і выключэньні, напрыклад, замак у Друсьвятах (Браслаўскі раён) быў больш чым на палову драўляным. Па-трэцяе, пэрыяд замкавай культуры на Беларусі трэба зьвязваць з пэрыядам готыкі на Беларусі (XIV - XVI стст.). Хоць у такіх рэчах, як вызначэньне культурнага пэрыяду, амаль што немагчыма быць дакладным. Але дакладна вядома, што першыя гатычныя агульнадзяржаўныя замкі-кастэлі, а яны менавіта такімі і былі, якія ўзьнікаюць на землях ВКЛ (Беларусі) былі: Лідзкі замак (узьведзены Гедзімінам у 30-я гады XIV ст.), Крэўскі (30-я гады XIV ст., бо вядома, што сын Гедзіміна, Альгерд, жыў тут з 1338 па 1345 гг.), замак у Медніках, замак у Троках (другая палова XIV ст.) і горні замак у Вільні (пач. XIV ст.). першымі замкамі ў сваім родзе зьяўляюцца Горадзенскі (1398 - 1402 гг.) і Навагарадзкі (каменная будаўніцтва, якога вялося з к. XIV ст. і было скончана да 1410 г., не ўлічваючы вежу-данжон, якая была пабудавана раней (другая палова XIII ст.), але ўключалася ў новую сыстэму абароны). З канца XV да сяр. XVII стст. інтэнсыўна будуюцца прыватныя замкі (Мір, Гераньёны, Мядзель, Любча й інш.).

Ў гэтай сувязі трэба адзначыць, што напрацягу доўгага часу, у нас была замацавана марксысцка-ленінская інтэрпрытацыя генэзысу фэадалізму, якая прадстаўлена ў працах Б.Грэкава, Б.Рыбакова, М.Каргера, В.Пашута й інш. Згодна якой раньнесярэднявечная дзяржава фармуецца на нашых землях на мяжы VIII - IX стст. і да X - XI стст. гэты працэс ужо скончаны. Гэта значыць, што ў гэты час зьяўляюцца першыя, па Б.Рыбакову - замкі. Гэта - абсурд! Дзяржавы Ўсходняй Эўропы яшчэ ня мелі рысаў клясычнага фэадалізму, які абапіраецца на ленную сыстэму й васальна-бэніфіцыяльныя адносіны, а таксама мае такую характэрную аснову як пазямельная залежнасьць.

Складана таксама паверыць, што такі дасьледчык і археоляг як М.Ткачоў робіць храналягічную памылку ўва ўзьнікненьні замкаў. У сваім артыкуле "Замак" (Археалогія і нумізматыка Беларусі.Энцыклапедыя. Мн.:Беларуская энцыклапедыя, 1993.) ён піша: "на Беларусі замкі пачалі будаваць у 2-ой палове XII ст."

Такім чынам праблема дэфініцыі "замак" у сучаснай гістарыяграфіі застаецца адкрытай. Гэта дае падставу пачынаючым дасьледчыкам на новыя працы й адкрыцьці.

**Вячаслаў Жукаў**

*Абарончае места*



# Гістарычны нарыс мястэчка Радунь XIII - XIX ст.



Паходжаньне назвы населенага пункта славянскае й тлумачыцца тым, што само слова "радунь" утварылася ад слова "рада", што азначае "нарада". Згодна зь іншай вэрсіяй, слова "радунь" паходзіць ад слова "радзець" са значэньнямі "клапаціцца", "радзіцца". Сапраўды, праз Радунь у свой час праходзілі бойкія гандлёвыя шляхі. Неаднойчы тут адбываліся буйнейшыя кірмашы, сюды неаднаразова прыязджалі купцы на "раду" па сваіх гандлёвых справах.

Старажытнае паселішча ўзьнікла, верагодна, дзесьці ў X - XI ст., заснавалі яго вялеты-люцічы.

Першае пісьмовае згадваньне аб населеным пункце з назвай "Радунь" адносіцца да 1217 г., калі па закліку папы рымскага нямецкія рыцары арганізавалі крыжовыя паходы супраць прыбалтыйскіх плямёнаў. Гэтая згадка знаходзіцца ў летапісу "Манумэнта Германіка" й зьвязана з тым, што крыжакі пасьля няўдалага штурму Трокскага замка ішлі прыступам на Ліду. Шлях іх пралягаў праз Радунь.

У XIII - XIV стст. Радунь уваходзіла ў Дайноўскае княства. З 1259 г. у складзе дзяржавы Міндоўга.

У фэадальную эпоху Радунь належала да сярэдніх мястэчкаў Беларусі. Да 1328 г. тут налічвалася 5 вуліцаў, рынак, 4 крамы. У мястэчку пражывала каля 12 заможных купцоў.

Паводле пісьмовых крыніцаў Радунь вядома з 1387 г. як уладаньне князя Скіргайлы. У грамаце на ўладаньне, якую дараваў Уладзіслаў Ягелон, адзначаецца, што Скіргайла Альгердавіч атрымаў "градъ Радыня и вся тая волость со всякою службою, вси люди и села и всякий доходъ..."

У XIV - XVI стст. непадалеку ад Радуні йснаваў Радуньскі замак. Ён разьмяшчаўся на асобным узвышшы на беразе ракі Радунька. Чатырохкутная ў пляне пляцоўка ўзвышалася на восем мэтраў над далінай ракі, была ўмацавана пяцімэтровым валам і акружана глыбокім ірвом. Перад уязною вежай-брамай існаваў мост з пад'емным пралётам-"узводам". Замак лічыўся вялікакняскім уладаньнем.

У ім 20 кастрычніка 1536 года ў прысутнасьці польскага караля Жыгімонта Старога была падпісана дамова - пра шлюб Барбары Радзівіл ды Станіслава Гаштольда.

Радунь неаднаразова згадваецца напрацягу XV - XVI стст. У 1440 г. "Радыня" - гаспадарскі двор, уласнасьць караля Казіміра.

У 1538 г. быў складзены інвэнтарны вопіс Радуні. Адпаведна зь люстрацыяй у Радуні быў вялікі рынак, 7 вуліцаў, 210 дамоў (каля 2000 жыхароў), 35 шынкаў, якія гандлявалі півам, 7 мёдам і 1 гарэлкай. Такая значная колькасьць піцейных установаў можа тлумачыцца тым, што праз Радунь пралягаў бойкі гандлёвы ўлях на Ўсход.



*Ян III Сабескі.*

Зь цягам часу зьмянялася жыцьцё насельніцтва Радуньшчыны. У XVI ст. мястэчка стала цэнтрам негарадавога старостава ў Троцкім ваяводзтве. У "Літоўскай Мэтрыцы" захаваліся ймёны першых старастаў: Януш Касьцевіч (на XV - пач. XVI стст.), Ян Хлябовіч, Шымка Мацкевіч, Станіслаў Керайла, Юры Валчковіч, Ян Герцык, Мікалай Талмаш - XVIст.

У 1558 г. "двор Радуньскі" - цэнтар Радуньскага староства, дзяржаўная ўласнасьць. Староства падзялялася на 4 войтаўствы. У месьце (горадзе) жыў 241 гаспадар (сям'я). З 1568 г. Радуньскае староства далучана да Лідзкага павету.

Герб Радуні - чырвоны рак у срэбным полі. Ёсьць вэрсія, што ў гэтых мясьцінах было вельмі многа ракаў, якіх у пітнях падавалі да піва.

Першы каталіцкі касьцёл у Радуні быў пабудаваны прыблізна ў 1556 г. У час вайны паміж Рэччу Паспалітай ды Расеяй у 1655 г. горад (места) Радунь і касьцёл былі спалены Маскоўскім войскам, а мясцовы архіў, які быў схаваны ў касьцёле, вывезены ў Масковію.

У сярэдзіне XVI ст. быў утвораны Радуньскі дэканат (дэканат - адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў каталіцкай царкве). У склад яго ўваходзіла 11 парафіяў. Агульная колькасьць вернікаў складала 7522 чалавекі.

У 1697 г. Радунь атрымала Магдэбурскае права ад польскага караля Яна III Сабескага. Сьведчаньне аб гэтым знаходзім у прывілеі Станіслава Аўгуста ў 1792 г., у якім гаворыцца: "Складзена таксама ў дакумантах прывілей панфірмацыйны найясьнейшы продка нашага Аўгуста III у годзе 1774, лістапада 22 дня" - зь яго вядома, што места Радунь у часы Яна III у 1697 г. ужо мела сваю ўправу й магдэбурскае права.

У 1765 г. Радуняй уладарыць (арэндуе каралеўскія уладаньні) Амсьціслаўскі кашталян Ёзаф Тышкевіч, які заплаціў 2616 залатых грошаў. У 1733-1775 гг. На Сойме распалілася спрэчка адносна межаў мястэчка, уведзены камісары (6 асобаў) для ўдакладненьня межаў.

У Радуньскім дэканаце ў 1781 г. існавала шэсьць шпіталяў з колькасьцю апякуемых у 103 чалавекі.

Паводле зьвестак у 1777 г. было 11 школаў, у якіх навучалася 50 дзяцей

шляхты й 164 навучэнцы належылі да іншых саслоўяў.

Згодна зь люстрацыйным інвэнтаром 1798 г., Радуньскае староства здавалася ў арэнду памешчыку Юліяну Ханявінскаму. Гадавы даход са староства на той момант склаў 3994 рублі 95,5 кап. серабром.

У 1843 г. мястэчка ў складзе Лідзкага павета Віленскае губэрні.

Не прайшла бясьсьледна для Радуні і Вайна 1812 г. Францускія захопнікі разрабавалі мястэчка й навакольныя вёскі. У дакумантах таго часу адзначаецца, што акупантамі была спалена 31 хата й забіта 93 чалавекі ў Радуні й яе ваколіцах.

У сьнежані 1812 г. падчас наступленьня расейскай арміі, ад мястэчка Каменка да Вільні была створана лятучая пошта. У Радуні знаходзілася адна з галоўных яе стнацыяў.

Вайна запаволіла эканамічнае разьвіцьцё мястэчка. Значна скарацілася колькасьць насельніцтва. У 1836 г. у Радуні налічвалвся 869 жыхароў і 91 хата.

Пры адмене прыгоннага права ў 1861 г. на Радунь і яе ваколіцы распаўсюджвалася "Палажэньне аб дзяржаўных сялянах". Згодна зь ім, сяляне маглі атрымаць зямлю, якой валодалі, за выкуп.

Народныя незадавальненьні, якія былі выкліканы рэформай 1861 г. закранулі і мястэчка Радунь, што знаходзілася на мяжы Беларусі й Летувы, і цесна было зьвязана зь імем Людовіка Остык-Нарбута.

Паўстаньне 1863 г. у Лідзкім павеце пачалося пасьля абвяшчэньня Маніфэста народнага ўрада Польшчы й Літвы 2 - 7 лютага. Загадам Віленскага рэвалюцыйнага камітэта Людвік Нарбут быў прызначаны ваенным начальнікам Лідзкага павета.

Улады трацілі шмат сілаў, каб разграміць "банду Нарбута". Аднак сутыкненьні казацкіх соцен з нарбутаўцамі толькі садзейнічалі росту папулярнасьці атрада. Тым ня менш з красавіка 1863 г. становішча паўстанцаў пагоршылася. Супраць нарбутаўцаў было кінута каля 3000 чал. пад камандаваньнем генэрала Вельямінава.

20 красавіка ў навакольлі возера Думбля (за 8 км. ад Радуні) адбыўся бой паміж паўстанцамі а карнікамі. Атрад Нарбута страціў па адных зьвестках 7 забітых і некалькі параненых, па другіх - 100 забітых і шмат параненых.

Разьвязка наступіла ў пачатку траўня. Атрад Нарбута вярнуўся пад вёску Дубіцы. Супраць яго былі накіраваны стральцы й рота Паўлагародзкага палка на чале з капітанам Цімафеевым. Адбыўся бой, у якім загінуў Людодвік Нарбут.

Пасьля гібелі Нарбута атрад Лідзкага павета ўзначаліў Падароўскі-Астрога, які ўлетку 1863 г. павёў байцоў у Аўгустоўскія лясы.

Яшчэ адна старонка гісторыі таго гераічнага часу зьвязана з прозьвішчам вядомага беларускага паэта-дэмакрата Ф.Багушэвіча.

За 7 км. ад Радуні знаходзіўся маёнтак Доцішкі. У мясцовай школе ў час паўстаньня 1863 г. настаўнічаў Ф.Багушэвіч. Аб гэтым сьведчыць польскі літаратар Напалеон Роўба, які зьяўляецца першым біёграфам паэта. Уладальнік маёнтка Аляксандар Зьвяровіч быў абвінавачаны ў сувязі з паўстанцамі й высланы ў Сібір, а Доцішкі канфіскаваны.



*М. Андрыёлі. Сьмерць Людвіга Нарбута каля Дубічаў.*

Можна меркаваць, што Ф.Багушэвіч знаходзіўся на Радуньшчыгне не выпадкова.

Пасьля адмены прыгоннага права Беларусь стала на шлях капіталістычнага разьвіцьця. Новыя адносіны пачалі складвацца і ў Лідзкім павеце. Ажывала мясцовая прамысловасьць. У мястэчку Радунь зьяўляецца гарбарны завод, пачынае дзейнічаць млын, бровар. Вядома імя ўладальніка мануфактурнага таварыства ў Радуні - Даблінскі-Гоммель. Недалёка ад мястэчка прайшла чыгунка. Гэта значна ажывіла гаспадарчую дзейнасьць на Радуньшчыне. У 1884 г. адбылася стачка 1500 будаўнікоў чыгункі. Несумненна, што ў ёй маглі ўдзельнічаць і жыхары мястэчка.

Значна вырасла колькасьць насельніцтва. Калі ў 1866 г. у Радуні было 739 жыхароў, то ў 1881 годзе іх налічвалася ўжо 1526 (767 мужчынаў і 769 жанчанаў). А згодна зь перапісам 1897 г. у мястэчку пражываў 1621 жыхар і было 313 дамоў.



*Ф. Багушэвіч*

Пашыраўся ўплыў касьцёла каталіцкага на насельніцтва. Да пачатку XX ст. у склад Радуньскага дэканата былі ўключаны наступныя парафіі: Радунь, Дубічы, Эйшышкі, Нача, Салешнікі, Малыя Салешнікі, Беняконі, Германішкі, Варэна, Тракелі, Дваржунцы, Геранёны, Саботнікі, Ладзюны,Ліпнішкі, Жыгмунцішкі, Іўе, Дуды, Дзівінішкі. Касьцёл праводзіў шырокую дабрачынную дзейнасьць. Пры ксендзу Даніелю Людзяце (у к. XIX ст.) пры Радуньскім касьцёле йснавала трохклясная школа. У 1885/86 навучальным годзе яе наведавалі 56 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Калі параўнаць з тым, што ў 1817 г. у школе займалася ўсяго 20 вучняў, то назіраецца пэўны прагрэс ў галіне адукацыі насельніцтва.

У школе вучні вывучалі ня толькі рэлігійныя прадметы, але і, навучыўшыся чытаць і пісаць, маглі набыць веды па земляробству, агародніцтву, будаўніцтву. Гэтыя зьвесткі маглі спатрэбіцца ім у далейшым жыцьці. Таго, хто скончыў такую школу, лічылі вельмі адукаваным чалавекам.

...Свой адбітак на жыцьцё Радуньшчыны наклалі падзеі і XX ст.

***Андрэй Борка***

## Фотаздымак з гісторыяй або гісторыя з фотаздымкам

На выяве адлюстраваны даволі арыгінальны адмежак гісторыі нашай роднай Горадні. За фантанам, на другім пляне можна распазнаць два знакамітых быдынкі ля сучаснае плошчы Савецкае. Справа – сумнавядомая Фара Вітаўта (гарнізонны касьцёл), які ўпершыню згадваецца ў 1389 г., і сьмешнавядомы палац культуры тэкстыльшчыкаў, пабудаваны ў 1959 г. Сьмешнавядомы таму, што, як вядома, узьведзены тылам да пераду – клясычны казус нашых градабудаўнікоў савецкае архітэктурнае школы.

...Адна з самых старых каталіцкіх сьвятыняў Беларусі ў 2 гадзіны ночы 29 лістапада 1962 г. пабарбарскі сьцерта зь зямлі нашай Бацькаўшчыны. Такі сумны лёс мог чакаць і паезуіцкі касьцёл.

Верым, наш хрысьціянскі люд духоўна ачысьціцца ад постсавецкае нечысьці й адбудуе храм, які стане сымбалем адраджэньне нацыі...



# *Горадзеншчына на старонках старой прэсы*

**Будоўля польскае школы ў беларускай вёсцы**. У беларускай весцы Круты Бераг (гміна Гарадзея) у Нясьвіскім павеце патрыятычнае насельніцтва ахвяравала пад будаўніцтва польскае школы пляц, будматар'ялы й рабочых. Бацькоўскі камітэт, які стаў на чале камітэту будаўніцтва, заклікае да ахвярнасьці грамадзкасьць, каб прыйшло з дапамогай вёсцы. Усе складкі дасылаць да Бацькоўскага камітэту у Крутым Беразе.

**Біскуп праваслаўны ў ваяводы**. Беластоцкі ваявода ген. Паслаўскі прыняў првaслаўнага біскупа Антонія з Горадні.

**Працэс Лубы**. Некалі мы паведамлялі аб найвялікшым у судовых падзеях Польшчы працэсе аб фінансавым злоўжываньні супраць былога начальніка горадзенскай службы фінансаў Лубы й інш. Разбор у горадзенскім акруговым судзе доўжыўся з 18-цю перапынкамі на працягу паўгода. З прычыны апэляцыі, унесенай пракурорам, апэляцыйны суд у Вільні разгледзіць 24 красавіка паўторна ўсю справу.

**Рэкляма**. Эканом, зямельны, самотны, сярэдняга ўзросту, з шматгадовай практыкай, дасканала азнаёмлены зь земляробствам і жывёлагадоўляй, а таксама з гандлёвымі й фінансавымі справамі й з бугальтэрыяй. Любіць працу, самавіты, цьвярозы, з добрымі пасьведчаньнямі й рэкамэндацыямі, жадае зьмяніць пасаду да самавітага зямляніна.

Нясьвіскі павет, пошта Гарадзея. K.J.

**Пажар у цэнтры Юнакоў**. У Горадні ўспыхнуў пажар у сталярных майстэрнях цэнтру працы Юнакоў, што месьцяцца ў старых пабудовах сьпіртавой манаполіі. У выратавальнай акцыі ўзялі ўдзел аддзелы гарадзкой і добраахвотнай пажарнай аховы. Агонь быў зьліквідаваны па амаль гадзіннай акцыі. Сталярны матар'ял і дах будынку цалкам зьнішчаны.

*"Ilustrowany kurjer codzienny"*
***№№ 86, 88 за 1935 г.***



ЗЬНІЧ
*Заснавальнікі:*
*Рэдакцыя «Зьніча»*

Інфармацыйна-краязнаўчы бюлетэнь «Зьніч» зьяўляецца неперыядычным выданьнем. Друкуецца выключна на беларускай мове. Наклад 299 паасобнікаў. Спасылкі пры передруку абавязковыя. Адрэса для карэспандэнцыі: 230009, Горадня, а/с 61. Выдаецца пры тэхнічнай дапамозе ГА «Ратуша» і БСДМ-«Маладая Грамада»

***Рэдактар:***
Юзік Бялявіч
***Мастак:***
Даша Яскевіч